© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: Мае заўвагі | Лета 6759 | Жывуць між намі




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (378) | ГОД VIII | 26 МАЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ




Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Цябе назваць, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.



А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок»

І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна.
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як калісь, мамаю назваў».

...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Ужо цяпер сказаць няма каму.

НА СУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

# МАЕ ЗАЎВАГІ

**інж. мгр УЛАДЗІМІР МІХАЛЮК — сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску.**

Рэалізацыя нашай сельскагаспадарчай палітыкі ўводзіць у жыццё вёскі велізарныя гаспадарчыя і грамадскія перамены. Дзяржаўная дапамога вёсцы расце з года ў год. У 1963 годзе на кошты меліярацыі Бельшчыны прызначана 7,2 мільёна злотых, а на крэдытную дапамогу — 36 мільёнаў злотых. Многа ці мала? Хачу ў гэтым месцы сказаць, што сярэдні, гадавы размер падаткаў у Бельскім павеце не перавышае сумы 27 мільёнаў зл. Зрэшты, дапамога з боку дзяржавы не абмежавана толькі да выдаткаў на меліярацыю і гаспадарскія крэдыты. Нельга забываць аб дапамозе ў забеспячэнні пасяўным матэрыялам, у пакупцы і гадоўлі бугаёў, ветэрынарнай апецы, і т.п. Мэта ўсіх гэтых намаганняў адна: — павысіць прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі!

Ці ўдасца дасягнуць намечанага росту прадукцыйнасці нашых гаспадарак, будзе залежаць ад таго, як нашыя гаспадары здолеюць выкарыстаць прызначаныя вёсцы сродкі. Залежыць гэта будзе таксама і ад самога ўмення гаспадаравання ды ад адукацыі гаспадароў. Таму шмат гаворым цяпер аб формах сельскагаспадарчай асветы. У сувязі з гэтым насунулася мне некалькі заўваг і думак, якія прысвячаю ўвазе чытачоў.

Здаецца, галоўным недахопам у развіцці сельскагаспадарчай асветы з'яўляецца тое, што няма каардынацыі яе. І так — школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі вядуць аддзелы асветы і культуры; сельскагаспадарчую адукацыю для дарослых арганізуюць павятовыя саюзы сельскагаспадарчых гурткоў супольна з аддзеламі сельскай гаспадаркі і лесаводства; гурткі сельскагаспадарчай падрыхтоўкі для моладзі арганізуюць павятовыя саюзы сельскагаспадарчых гурткоў супольна з Саюзам Сялянскай Моладзі; розныя курсы арганізуюць усялякія іншыя арганізацыі ды аб'яднанні. Усе гэтыя школы і курсы працуюць паводле праграм, прыстасаваных да акрэсленых патрэб. Аднак у гэтых праграмах не ўлічана галоўнае — грамадскі план развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Таму цяжка знайсці ў гэтых праграмах канкрэтны адказ на пытанне: — Што павінны рабіць гаспадары ў данай грамадзе, каб свой план хутка выканаць? Лічу, што правільны адказ на гэткае пытанне пачуем толькі тады, калі будзе вырашана праблема каардынацыі сельскагаспадарчай асветы ў павеце. І калі арганізацыяй асветы пакіруе адна ўстанова. Зразумела, маю тут на ўвазе Аддзел сельскай гаспадаркі і лесаводства.

Сёлета на Бельшчыне існавала 100 пунктаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі для дарослых. Знаходзіліся яны ва ўсіх ГРН-ах. Ці магчымым было пастаянна кантраляваць іх? Вядома, што не. А мо' было б ляпей канцэнтраваць іх адпаведна да планаў комплекснай механізацыі на тэрыторыі павета? У такіх планах прадбачана развіццё механізацыі ў паасобных ГРН-ах. Каб увесці на вёску машыны, раней трэба правесці падрыхтоўчую працу сярод сялян. І вось, сельскагаспадарчыя школы ды курсы змогуць тут выдатна дапамагчы. Значыць, трэба іх арганізаваць ва ўсіх вёсках тых грамадскіх рад, якія ў даным годзе будуць механізаваны. Такім чынам вырашым пытанне сістэматычнага кантролю курсаў, бо гэты абавязак можна

(Працяг на стар. 4)

ВЕРА ЛЕЎЧУК

# ПРА СМАЧНЫ КАВАЛАК

Бяру ў рукі кніжку — на беларускай мове. Чытаю гісторыю, расказаную словамі, якімі штодзень гавару. Гэта дае задавальненне. Ласкоча маю нацыянальную амбіцыю. Хвіліну ўвагі: гэтая кніжка куплена ў дзяржаўнай кнігарні за дзяржаўныя грошы, зайшла ў публічную бібліятэку для таго, каб я магла вось так яе ўзяць і пачытаць. Старэйшыя людзі, тыя з КПЗБ і Грамады, ківаюць галовамі і кажуць, што ніколі так не было. Што кніжка на беларускай мове была забаронена. А мне яшчэ больш прыемна робіцца.

З ваяводскай бібліятэкі пазванілі: «Маем новыя даныя аб беларускім чытальніцтве. Напішыце, можа гэта паможа нам здабыць новых чытачоў.»

Неспакойныя людзі. Усё ім чытачоў мала. Цешацца з кожнага, хто зайдзе ў бібліятэку і возьме кніжку. А варочаюць жа лічбамі чытачоў і бібліятэк, якіх ніколі не бачыла Беласточчына і беластоцкая вёска. Калі ж будзе даволі?

Тады, як кніжка стане штодзённым хлебам кожнага. Гэтага хочам. І, можаце са мной спрачацца ці не, але, хочучы звацца людзьмі культурнымі і разумнымі, павінны прыняць гэта як добры дар.

Кніжка беларуская, бо яна, як доказ нашай нацыянальнай жыццяздольнасці, будзе прадметам нашага развагання зараз.

Хочам пагаварыць, як беларуская кніжка даходзіць да сваіх, ці прымаюць яе, ці рады ёй. Лічбы тут можна б, але суха будзе. Лепш астанемся цвёрдымі перад лічбамі і па-людску скажам.

### Факт І

Хоць паволі, але беларуская кніжка не перастае наступаць. Пэўна, штораз лепш працуюць бібліятэкі і бібліятэкары, штораз больш беларускіх кніжак плыве ў бібліятэкі. Але і звычайны чалавек вырастае, развіваецца.

### Факт ІІ

Больш цікавы, чым важны: у бібліятэках паветаў, дзе жывем, ёсць больш кніжак рускіх, чым беларускіх, але чытаюцца больш беларускія. Папулярнасць беларускай кніжкі сярод беларусаў расце.

### Факт ІІІ

Замала добрых цікавых беларускіх кніжак, нават наогул беларускіх кніжак мала. У сярэднім недзе па 13 тамоў на кожную бібліятэку і пункт. Пакупка новых кніг сустракаецца з сур'ёзнымі перашкодамі. Планы Ваяводскай бібліятэкі (яна праводзіць пакупку) рэалізуюцца з вялікім спазненнем, або і наогул няпоўнасцю рэалізуюцца. І адносіцца гэта (што цікава) толькі да кніжак беларускіх. З украінскімі і літоўскімі кніжкамі такіх цяжкасцей няма. У сябе мы беларускіх кніжак не друкуем (акрамя некаторых падручнікаў). Але дзяржава дае нам грошы на пакупку заграніцай.

Дырэктар Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку вітае мяне словамі: бяда, не маем беларускай літаратуры, мо' вы праз Таварыства што паможаце. Праз непасрэдны кантакт з Мінскам. Украінцы ў такі спосаб дасталі нядаўна 750 кніжак. Яны папоўнілі нашы публічныя бібліятэкі і пункты.

Кажу, што запомню і прыпомню. Што ж больш магу зрабіць?

### Факт ІV

Лік чытачоў падае. Менш іх было ў 1962 годзе, чым у папярэдніх, і менш у І квартале г.г., чым у аналагічным часе

(Працяг на стар. 4)




Ля выстаўкі беларускага друку і мастацтва ў Гарадку.
(Да «Гарадок у адзін будзённы дзень» Стар. 3).

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## У час канікул

Да канца навучальнага года і да пачатку канікул яшчэ шмат часу. Але ўжо нашыя ўлады і маладзёжныя арганізацыі многа зрабілі, каб школьнікі добра і культурна адпачывалі ў ліпені і жніўні.

— У Годзе Беластоцкай Зямлі, — гаворыць камендант павятовага гуфца гарцэраў Ян Пясчынскі, — мы імкнемся, каб усе 157 гарцэрскіх і зуховых дружын Бельшчыны, якія налічваюць больш 4 тысяч асоб, правялі канікулы яшчэ лепш, яшчэ цікавей, чым у мінулым годзе. Плануецца, каб з кожнай школы ў павеце па некалькі найлепшых вучняў выехала ў гарцэрскія лагеры над прыгожым возерам у Элку. Запланавана таксама, каб гарцэры з паасобных дружын выехалі аўтобусамі на трохдзённую экскурсію па найпрыгажэйшых шляхах Беласточчыны.

— А што прадугледжваецца для тых школьнікаў на вёсцы, якія не выедуць ні ў гарцэрскія лагеры, ні на трохдзённую экскурсію? — звярнуўся я да Яна Пясчынскага.

— Для ўсіх вучняў на вёсках, — гаворыць ён, — будзе арганізавана т. зв. нялагерная акцыя. У чэрвені будзе падрыхтавана больш трохсот чалавек (г. зн. па адной або некалькі асоб з кожнай школы), заданнем якіх будзе арганізаваць цікавы і культурны адпачынак для ўсіх школьнікаў: экскурсіі, забавы, мастацкія выступленні, спартыўныя гульні і г.д. Напрыклад, гарцэрскія дружыны з Зубава, Плёсак, Дзянісак, Пасынак і іншыя будуць збіраць матэрыялы для хронікі аб дзейнасці ў іх аколіцы ЗМВ у сувязі з дваццатай гадавінай утварэння гэтай арганізацыі.

У мінулым годзе каманда Бельскага гарцэрскага гуфца правяла нялагерную акцыю найлепш у Беластоцкім ваяводстве і атрымала за гэта пераходны сцяг. Калі ідуць намаганні, каб у гэтым годзе арганізаваць яшчэ лепш адпачынак усіх вучняў і гэтым самым утрымаць у сябе першае месца і пераходны сцяг, значыць, школьнікі Бельшчыны будуць задаволены працай арганізатараў і цікава правядуць летнія канікулы.

мх

# Пра ўслугі на Гайнаўшчыне

Гайнаўскі павет лічыцца тыповым сельскагаспадарчым раёнам. У час мінулай выбарчай кампаніі ў Сейм і Рады нарадовыя жыхары вёсак і мястэчкаў часта звярталіся да кандыдатаў з запытаннямі, заўвагамі і прапановамі адносна пашырэння сеткі рамесных услуг. Таму Прэзідыум Павятовай рады ў Гайнаўцы было асабліва зацікаўлена гэтымі справамі.

Трэба сказаць, што калі ў 1955 годзе налічвалася ўсяго 35 рамесных майстэрняў, дык у 1960 годзе лік іх узрос да 72, а ў канцы 1965 года будзе іх аж 110. Гэткія тэмпы развіцця сеткі рамесных услуг могуць толькі радаваць. Аднак радасць са смуткам ходзяць разам.

Прыватнае рамяство развіваецца надта павольна. Адчуваецца недахоп адпаведных памяшканняў, фінансавай дапамогі, спецыялістаў, сыравіны.

Асабліва балючым з'яўляецца недахоп памяшканняў, што сведчыць аб слабым зацікаўленні рад нарадовых справамі развіцця рамяства. На жаль, усё яшчэ на першым месцы ставяцца патрэбы гандлю. А пастанова Рады Міністраў № 194 абавязала рады нарадовыя, каб выдзяліць памяшканні для рамесных услуг у кожным шматпавярховым доме. Такія дамы ёсць у нашых мястэчках — Белавежы, Нарве, Кляшчэлях, Чаромусе, Нараўцы і ў самой Гайнаўцы. Некаторыя фабрыкі і заводы будуюць сваім працаўнікам жыллёвыя дамы, ды заўсёды памятаюць аб тым, каб на першым паверсе знайшлося месца для рамеснай майстэрні (шаўца, краўца, слёсара).

Цяжкасці з кватэрамі ў Гайнаўцы прычыніліся да таго, што шмат памяшканняў, прызначаных для майстэрняў, занята пад кватэры. Гэта не магло не адбіцца на развіцці рамяства ў горадзе. Таму часта пры малой, забітай вулічцы знаходзіцца адначасова па некалькі краўцоўняў, а пры другім завулку — шэраг цырульняў.

Няма спецыялістаў — гэта факт. У першую чаргу патрэбны спецыялісты па рамонту хатняга абсталявання, радыёпрыёмнікаў, машын і сельскагаспадарчых машын.

Рамяству хочам дапамагчы. Будуем адміністрацыйныя будынкі, каб перанесці туды ўстановы і такім чынам даць памяшканні для рамесных майстэрняў. Да 1965 г. будзе пабудавана 15 шматпавярховых жылых дамоў, у якіх, як правіла, будуць размешчаны рамесныя майстэрні. Аднак непакоіць тое, што моладзь, наогул, неахвотна паступае вучыцца ў рамесныя школы, і гэта з'явіцца сур'ёзнай перашкодай у пашырэнні сеткі рамесных услуг, як у самой Гайнаўцы, так і на тэрыторыі павета.

ЯЗЭП КАЗАК
Гайнаўка

### ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## Браты

Жылі-былі два браты, бедны і багаты. Мелі яны ўжо свае гаспадаркі і сем'і. У багатага ўвесь дзень былі госці, не толькі ў святы, але і ў буднія дні піравалі. У багатага быў на стале пірог і мяса, было віно.

Думае і думае што зрабіць бедны брат, бо ў яго і хлеба ад нядзелі не стала. Не мог нават за што і рук зачапіць. Рашыўся павесіцца, не было іншага выхаду. Пайшоў да багатага брата пазычыць дзесяць капеек на вяроўку. Што ж, брат даў дзесяць капеек, нават не пярэчыў, як бы яго гэта не датычыла.

Купіў брат вяроўку, і яшчэ шэсць капеек асталося. Думае: куплю яшчэ булку.

Вешацца пайшоў у лес. Хацеў павесіцца на першай ёлцы. Закінуў вяроўку на вяршок, а ёлка і сагнулася. Стаў бедны брат зноў на зямлі. Аж сюды прыбег чалавек, якога непадалёк была тут гаспадарка.

— Што ты, вешацца тут надумаў! Вон! Каб мае вочы цябе не бачылі! Хочаш, каб мае дзеці нават хадзіць тут баяліся! — сказаў ён.

Бедны пайшоў у поле. Там, на мяжы, што дзяліла палеткі, расла груша. «Тут і павешуся», — падумаў ён.

Вяршок грушы быў ужо сухі. А груша была вельмі тоўстая, ужо старая. Перад тым, каб павесіцца, мужык успомніў пра булку і давай есці. Вымаючы булку, выпусціў вяроўку. Трэба было злазіць з грушы. Калі бедны брат быў ужо на адной тоўстай галіне, нага яго трапіла ў дупло. Там штосьці зазвінела. Ён і палез туды. Там было многа-многа залатых манет. Вярнуўся дадому, нават вяроўку забыўся на галіне.

У хаце адразу з'явіўся хлеб, пірог, каўбаса. Да беднага пачалі зыходзіцца госці. Тут старэйшы брат успомніў пра грошы, якія схаваў у дупле. Ён туды — але грошай не знайшоў. Узяў ды і павесіўся з гора на той жа грушы.

Бедны брат стаў жыць шчасліва і багата. А багаты брат загінуў. Праўду гаворыць народная прымаўка: «Не капай пад кагось яму, бо сам у яе ўвалішся».

Такая і мараль гэтай казкі.

Ад **Якуба Сухадолы** (90 год) з Новага Ляўкова запісаў **Янка Цялушэцкі.**



**На палі спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай (Сямяціцкі павет) ізноў выйшаў трактар. Сваім грукатам абвяшчае вясну — пачатак бесперапынных цяжкіх прац на гаспадарцы.**

Фота: **В. Рудчык**

## Слойка не сароміцца

У калоніі Слойка, што знаходзіцца пры шашы з Крынак да Саколкі, па некалькі разоў у дзень спыняецца пасажырскі аўтобус. Тут знаходзіцца прыпынак ПКС. Але бяда таму, хто вымушаны чакаць аўтобуса ў Слойцы.

Справа ў тым, што на прымацаванай да стоўбіка бляшанай таблічцы з раскладам язды, немагчыма нічагуткі прачытаць. Яна разбіта каменем, пагнутая ды ледзь трымаецца на адным цвіку, быццам вятрак. Вось такім спосабам хтосьці выпрабаваў «цэльнасць» сваёй рукі.

І хадзі, чалавеча, па хатах, і пытай — якія, куды, і ў колькі гадзін ездзяць аўтобусы? А ў Слойцы гэтых хат усяго тры-чатыры. Што рабіць, калі гаспадары пойдуць працаваць у поле, а малыя дзеці тлумачаць: — «Адзін самаход ідзе зранку, другі — як сонца стане за гарою, а пасля то ўжо ходзіць іх многа аж да цямна» (?)

(ся)

## „Въ лето 6759" (1251 год)

(Працяг са стар. 3)

сточчыне. Час яго заснавання дакладна не ўстаноўлены. Ад 1060 года вядомы як горад, які ўваходзіў у склад Кіеўскай Русі.

[7]. Злінцы, праўдападобна, адно з ятвяжскіх плямён, якое вяло незалежную ад ятвяг палітыку.

[8]. Полаўцы-стэпавыя плямёны, якія насялялі прасторы над сярэднім і ніжнім цячэннем ракі Дон. Тут — палавецкі атрад, які быў на службе ў Данілы і Васілька.

[9]. Магчыма, раку Элк.

[10]. Праўдападобна, раку Лэнк.

[11]. Прусы — балтыйскія плямёны, сваяцкія ятвягам і літоўцам, якія насялялі землі паміж вусцямі Віслы і Нёмана. Прусы загінулі ад крыжаносцаў. Борты — адно з балтыйскіх плямён, сваяцкае прусам, ятвягам і літоўцам.

[12]. «Полное собрание русских летописей»», т. II. ч.3 «Ипатиевская летопись» Спб, 1843, стар. 185—187.

мгр МІКОЛА ГАЙДУК

Тэрміновую дастаўку газет гарантуе падпіска.
Ці ты з'яўляешся падпісчыкам „НІВЫ"?

## Між намі

(якіх ужо нельга лячыць) на тэрыторыі Беласточчыны няма ніводнага замкнутага месца.

Жыхары Плянтаў цяпер штодня вызначаюць да Тафілі ахрану. Затое, што забралі мужа і сыноў, яна пагражае спаліць вёску або павесіцца. Такой не вер. Яна ўсё можа.

* * *

— З псіхічна хворымі, так сказаць, безнадзейнымі, якіх ужо нельга вылечыць, — гаворыць кіраўнік грамадскай апекі прэзідыума ПРН у Беластоку Іван Кашмалюк, — маем надзвычай многа клопатаў. Толькі ў гэтым годзе ў Харошчу накіравана 15 асоб з Беластоцкага павета. З жанчынамі яшчэ горш. Чакаем, пакуль звольніцца нейкае месца ў Вроцлаўскім або ў іншым ваяводстве. Тады высылаем. А пакуль яны зусім без апекі. Жывуць паміж людзей, у многіх выпадках прычыняючы шмат няшчасцяў.

— Які ж выхад бачыце з гэтага цяжкага становішча?

— Па-мойму, добра было б арганізаваць на тэрыторыі ваяводства нейкую замкнутую ўстанову, дзе часова, да высылкі ў адпаведнае месца, можна было б змяшчаць такіх людзей. Вядома, гэта будзе звязана з пэўнымі капіталаўкладаннямі. Для гэтых жа людзей (хаця б і на кароткі час) трэба забяспечыць належную апеку, ежу і г.д. Але ж нельга іх пакінуць зусім без апекі.

У многіх выпадках не без віны і асяроддзе, у якім жывуць гэтыя няшчасныя. Вельмі ж ужо абыякава адносяцца людзі да чужога гора. І таму ў большасці выпадкаў аддзел грамадскай апекі зусім не ведае аб псіхічна хворых ці недаразвітых людзях. Напрыклад, сям'я Дамброўскіх. Яна зусім не была зарэгістравана ў спісах жыхароў грамады Юшкаў Груд. Фармальна выходзіць, што гэтыя людзі зусім не існавалі. А яны ж шмат гадоў жылі на тэрыторыі грамады.

У вёсцы Ціванюкі (грамада Юшкаў Груд) дзесяткі гадоў жылі псіхічна хворыя брат з сястрой — Лук'янюкі. На гэтых людзей страшна было глядзець. У Лук'янюка адпушчана барада па калені, у якой кішэлі вошы. Хворыя, бывала, зімою неаднойчы тыдзень часу не мелі кавалка хлеба. Назбіраюць на панадворках хворасту, напаляць хлебную печ і ляжаць у ёй цэлымі днямі. Толькі галовы павысаджваюць, каб дыхаць можна было. Побач з імі жылі людзі, аднавяскоўцы. Нікога гэта не хвалявала.

Толькі ў 1961 годзе аддзел грамадскай апекі даведаўся аб Лук'янюках.

Людзі! — хочацца тут сказаць. — Будзьце больш чалавечымі.

В. БАРШЧЭЎСКІ



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

